БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

Société de la croix Rouge de la Ruthenie Blanche
Bulletin № 2—1926.

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 2



Кастрычнік-Лістапад
1926 г.

КОШТАМ ЦК БЕЛАРУСКАГА Т-ва ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ
МЕНСК 1926

# Новыя задачы гаспадарчай дзейнасьці Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу.

Першая Конфэрэнцыя Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу, якая адбылася ў красавіку 1926 г., застанавіла сваю ўвагу галоўным чынам на пытаньні аб далейшай гаспадарчай працы Т-ва. Конфэрэнцыя пастанавіла абмежаваць гандлёвую дзейнасьць Т-ва і пашырыць грамадзкую. А між тым, пастанова гэта і да сучаснага моманту ня ў поўнай меры праводзіцца ў жыцьцё. У шмат якіх акруговых гарадох яшчэ і зараз існуюць магазыны Чырвонага Крыжу ўнівэрсальнага тыпу, закладваюцца комісіённыя бюро, а ў Полацку організуецца ватная фабрыка.

Калі прыглядзецца да характару работы гэтых гаспадарчых установаў, дык элемэнту грамадзкасьці тут знойдзеш вельмі мала. Ня будучы непасрэдна зьвязанымі з членамі Т-ва, яны абслугоўваюць самы рознастайны склад спажыўцоў. Захоўваючы ў сябе характар звычайнага прыватнага гандлёвага прадпрыемства, яны прыкрываюцца грамадзкім шыльдам Таварыства і тым самым пашыраюць сярод працоўных ілжывае ўяўленьне аб ідэях Чырвонага Крыжу. Асортымэнт тавараў у іх таксама розны. Тут можна знайсьці тульскія самавары і рускую горкую, дамскія боцікі і голяндзкі сыр. Адным словам, уся гаспадарчая дзейнасьць акругов. каміт. накіравана толькі на гандаль і з-за гэтага праводзіліся тыя ці іншыя пачынаньні. Натуральна, што РСІ не адзін раз зьвяртала на гэта ўвагу і рабіла прапазыцыі аб спыненьні такога гандлю.

Прызнаючы неабходнасьць для Т-ва мець у даны момант гаспадарчыя прадпрыемствы, Цэнтральны Камітэт ўсё-ж лічыць, што трэба ясна сабе ўявіць, на што, для якой мэты, гандлёвыя ўстановы могуць існаваць у нетрах Чырвонага Крыжу. Адхіляючы цалком прынцып гандлю дзеля гандлю, патрэбна высунуць іншы зьмест і другую форму, на якіх будуць будавацца ў будучыне гаспадарчыя прадпрыемствы Чырвонага Крыжу.

Гаспадарчая праца Таварыства павінна так будавацца, каб яна стала сродкам грамадзкай спайкі членаў Т-ва, мэтодам выхаваньня ў іх колектывістычных навыкаў працы. Для гэтага неабходна, каб коопэрацыйныя прынцыпы вядзеньня гаспадаркі ахапілі ўсе гандлёвыя прадпрыемствы Чырв. Кр.

і тым самым дапамаглі гэтым прадпрыемствам стаць арганічна спаянымі з усім колектывам Чырвонага Крыжу ў цэлым. Гэта будзе магчыма толькі тады, калі члены Т-ва данай організацыі або ячэйкі змогуць прымаць непасрэдны ўдзел у адмін.-гаспадарчым кіраваньні прадпрыемствам. Самы ўдзел разумеецца ня толькі ў выбарах праўленьня і рэвізыйнай камісіі данага прадпрыемства, але таксама і ва ўзносе пайка. Паёк, як правіла, уносіцца грашовы, але ў некаторых выпадках ён можа быць заменены роўнацэннай колькасьцю працоўных гадзін. Падобная форма ўдзелу будзе расцэньвацца, як асобны трудавы паёк. Процант даходу данага прадпрыемства, апрача адлічэньняў у агульны скарб Т-ва, можа выдавацца праз пэўны тэрмін, кожнаму пайшчыку. Пры гэтым падыходзе да вядзеньня справы, энэргія паасобных членаў Т-ва будзе поўнасьцю скарыстана, а, самае галоўнае, яно здолее аб'яднаць сваіх членаў і зацікавіць іх з боку гаспадарчага.

Маючы на ўвазе, што галоўнай задачай Чырв. Кр. зьяўляецца дапамога органам аховы здароў'я ў справе аздараўленьня краіны, неабходна і гандлёвую дзейнасьць яго перабудаваць так, каб яна адпавядала гэтаму прынцыпу. Гандлёвыя прадпрыемствы Чырв. Кр. павінны так паставіць сваю працу, каб мець магчымасьць забясьпечваць усім неабходным ня толькі лекава-санітарныя і дзіцячыя ўстановы, але і сваіх пайшчыкаў-членаў.

Таксама, патрэбна Чырв. Крыжу зьвярнуць увагу на організацыю дастаўкі прадуктаў. Тут паўстае пытаньне аб пажаданасьці аб'яднаць у руках Таварыства транспорт лекава-санітарных устаноў і замене коняй апошніх на аўтомобілі. Тым самым будзе ствараца магчымасьць організацыі вайскова-санітарнага транспорту, які так патрэбен Чырв. Крыжу на выпадак вайны.

У вёсцы, дзе неабходна як мага больш уцягнуць у працу Таварыства сялян, ужо на часе паставіць пытаньне аб дапамозе мясцовай саматужнай прамысловасьці з боку ячэек Чырв. Кр. у форме саматужна-прамысловых арцеляй па перапрацоўцы сыравіны сялянскай гаспадаркі.

Млын, майдан (гонка дзёгцю, смалы і інш.)—вось тыя галіны саматужнай вытворчасьці, якія, прыстасоўваючыся да характару мясцовых умоў, могуць стацца об'ектамі гаспадарчай эксплёатацыі Чырвонага Крыжу.

Натуральна, што кожны раз, як ячэйка Чырв. Кр. хоча ўзяць на сябе організацыю такой арцелі, пытаньне гэта раней павінна быць узгоднена з мясцовай уладай.

Органы аховы здароў'я прымаюць на сябе організацыю соцыяльна-неабходных галін лекава-санітарнай дапамогі. Усё-ж іншае, не соцыяльна-неабходнае, але карыснае, можа ўзяць на сябе Чырв. Кр. Гэта датыча, галоўным чынам, організацыі

на гаспадарчым разрахунку такіх лекава-санітарных устаноў як: а) рэнтгэнаўскія габінэты, б) зубатэхнічныя амбулаторыі і в) магазыны санітарыі і гігіены. Мэдычнае кіраваньне гэтымі ўстановамі павінна, зразумела, належыць да органаў аховы здароўя.

Распыленасьць сродкаў Наркамздрава і Чырвонага Крыжу на санітарна-асьветнае выдавецтва, якая заўважваецца зараз, не дазваляе разгарнуць гэту справу ў належнай меры. Пажадана сконцэнтраваць у Чырв. Кр. ўсю выдавецкую справу Наркамздрава і на акруговыя камітэты ўскласьці агэнтуру па збыту гэтых выданьняў.

Прынцып гаспадарчага разрахунку і тут павінен захавацца, як грунтоўны. Дэфіцытнасьць па магчымасьці павінна зжывацца.

Падагульваючы ўсё сказанае, трэба моцна і ясна паставіць раз на заўсёды перад Чырвоным Крыжам толькі грамадзка-карысныя задачы яго працы. Чырвоны Крыж павінен не на словах, а на справе зрабіцца школай грамадзкага выхаваньня сваіх членаў, а таму і ўсе яго гаспадарчыя прадпрыемствы павінны так будавацца, каб грамадзкасьць гэта была на першым месцы.

**М. Барсукоў.**

# Праца Цэнтральнага Камітэту

### за пэрыод Травень—Верасень 1926 г.

На 2-ім Пленуме Цэнтральнага Камітэту, які адбыўся 25 верасьня 1926 г., быў заслухан справаздачны даклад Намесьніка Старшыні Ц. К. А. Цьвікевіча, зложаны з наступных тэзісаў.

Прэзыдыум ЦК Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу на першым сваім пасяджэньні 22 красавіка абраў Рабочае Бюро, у складзе 3 асоб. Практыка паказала, што такі спосаб працы ёсьць найбольш мэтазгодным. Рабочае Бюро Прэзыдыуму за справаздачны пэрыод адбыло 18 пасяджэньняў і вырашыла 222 пытаньні.

Праца ЦК за справаздачны пэрыод адбывалася ў чатырох галінах: організацыйна-інструкцыйнай, фінансава-гаспадарчай, літаратурна-выдавецкай і міжнароднай. Кожная дзейнасьць мае свае дасягненьні і свае заганы.

### У галіне організацыйна-інструкцыйнай.

1. ЦК вызнаў, што галоўная сіла Т-ва і гарантыя яго пашырэньня і ўзмацненьня на будучыну, ляжыць у працы мясцовых камітэтаў. З мэтай дапамогі ім ЦК апрацаваў і зацьвердзіў адпаведныя „Палажэньні-інструкцыі“ аб мясцовых

аддзяленьнях і раённых камітэтах. Наперад можна сказаць, што азначаныя „Палажэньні-інструкцыі“ не абхапляюць сабой усіх магчымых лініяў і форм працы, якія сустракаюцца на мясцох. ЦК чакае ад мясцовых камітэтаў патрэбных паправак і ініцыятывы.

2. Практыка мясцовых організацый узьняла пытаньне аб мэтазгоднасьці існаваньня так зв. „колектыўных членаў“ Т-ва. ЦК прыняў пад увагу тыя труднасьці, якія бываюць пры прыняцьці такіх членаў, і проэктуе зьмяніць Статут Т-ва выключэньнем з яго пунктаў, якія гавораць аб „колектыўных членах“.

3. Праведзенае, згодна пастановам Конфэрэнцыі, абсьледаваньне мясцовых камітэтаў паказала, што стан іх не такі добры, як паказваюць офіцыяльныя рэфэраты. Лёзунг „на шипке все спокойно“—немагчымы ў варунках нашае працы. Абсьледваньне паказала, што інструктаж з боку ЦК—рэч абавязковая.

4. У зьвязку з рэжымам экономіі і выпадкамі прыезду ў Менск прадстаўнікоў мясцовых організацый без абавязковай патрэбы, ЦК забараніў гэткія падарожжы без папярэдняга ўзгадненьня іх з Бюро.

5. Ня гледзячы на пастановы Конфэрэнцыі, акруговыя камітэты ў сваёй дзейнасьці нядбайны,— не прадстаўляюць рэгулярных справаздач аб сваёй працы і сьметных запатрабаваньнях. ЦК пастанавіў у выпадках гэткай нядбайнасьці рабіць адказнымі за іх асабісьце старшынь адпаведных камітэтаў.

6. Справаздачны пэрыод дзейнасьці ЦК паказаў, што тыя формы супрацоўніцтва і дапамогі, якія да гэтага часу праводзіла Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу па лініі ясельнай кампаніі, забясьпекі мацярынства і дзяцінства, па лініі барацьбы з простытуцыяй і г. д. ня вытрымліваюць крытыкі. Гэта справа павінна будавацца на новых падвалінах у залежнасьці ад таго, у якой організацыйнай сувязі будуць стаяць да Чырв. Крыжу „саветы социяльнай дапамогі“. ЦК лічыць натуральным, каб „саветы социяльнай дапамогі“ былі аднэй з форм грамадзкай самадзейнасьці пры Чырвоным Крыжы. У зьвязку з гэтым ЦК узьнімае пытаньне аб концэнтрацыі пры Т-ве справы барацьбы з туберкулёзам, як социяльна-шкодным зьявішчам (гл. іншы спосаб пабудовы каштарысу на 1926-27 год).

7. Разам з тым ЦК лічыць сваячасным падняць пытаньне аб зьліцьці з Чырвоным Крыжам усіх форм дапамогі дзецям у рэспубліканскім маштабе. Падобнае аб'яднаньне карысна і з боку экономіі сіл і сродкаў і з боку організацыйнага.

8. Пажаданьне Конфэрэнцыі аб сьціслым супрацоўніцтве Т-ва з Інбелкультам рэальна за мінулы час не магло быць праведзена, дзякуючы летнему перапынку ў працах Інбелкульту. Аднак, з пачаткам акадэмічнага году ў мэдычнай сэк-

цыі ІБК будзе пастаўлен шэраг дакладаў аб Чырвоным Крыжы. ЦК у галіне дасьледаваньня Беларусі пакуль толькі злажыў гэрбары лекавых траў БССР. Далейшая праца ў гэтым напрамку будзе рабіцца ў паразуменьні з Інбелкультам.

10. У сувязі з так зв. „мобілізацыйным“ момантам у працы Бел. Т-ва Чырв. Крыжу, Т-ва прыгранічнага, і ў сувязі з апошнімі пастановамі Іспалкому, ЦК апрацоўвае програму санітарнай дапамогі Чырвонай арміі і насельніцтву на выпадак вайны. Адпаведная дзейнасьць—організацыя сан. курсаў сярод рабочых-жанчын у першую чаргу, будаваньне газавых убежышч і г. д.—ёсьць задача першаступнёвай важнасьці. Яна павінна весьціся ў сьціслым супрацоўніцтве з ОСВО мясцовымі організацыямі. Аднак, практыка паказала, што да гэтага часу мясцовыя організацыі ў гэтым напрамку зрабілі вельмі мала. Важна, каб яны для гэтае справы далі матар‘ял—што яны па мясцовых варунках могуць даць і што могуць зрабіць.

11. У зьвязку з тым-жа „мобілізацыйным“ момантам ЦК высоўвае два пытаньні: а) аб ператварэньні цяперашняга „вайсковага фонду“ з фонду грашовага ў фонд матар‘яльны („свернутый лазарет“, „свернутыя койкі“ і інш.); б) аб правядзеньні ў бліжэйшай будучыне ўчоту сіл Бел. Т-ва ў сэнсе таго санітарнага актыву і тых форм працы, якія наша Т-ва можа разьвярнуць у момант вайны.

12. Сувязь з сялянствам у сэнсе ўцягненьня яго ў працу Т-ва і ў сэнсе аздараўленьня быту вёскі,—становіць адно з важнейшых і труднейшых заданьняў Т-ва. ЦК адзначае, што ў гэтай галіне амаль нічога ня зроблена. Не падняты і не праведзены такія важныя справы, як падрыхтоўка будаваньня лазьняў і студняў на вёсцы, сувязь з сан. камісіямі пры с/с. ЦК у гэтым кірунку зрабіў, што мог: выдаў дотацыі па каштарысах, даў інструкцыі, выдаў адпаведныя матар‘ялы (брашура з плянам), узгодніў пытаньне аб водпуску лесу з Наркамземам і інш. установамі. Цяпер справа стаіць за акругамі і больш дробнымі мясцовымі організацыямі. ЦК сьведчыць, што бяз жывой працы на вёсцы, прапаганда ідэй Чырв. Крыжу сярод сялянства не пасунецца наперад і ставіць пытаньне перад Пленумам аб тым, як зрушыць гэту справу з мёртвага пункту.

13. Пашырэньне ўплываў Т-ва на вёсцы і правядзеньне працы сярод сялянства ў значнай меры залежыць ад мовы, на якой гэта праца будзе праводзіцца. Прымаючы пад увагу апошнія пастановы дырэктыўных органаў БССР у гэтым пытаньні, ЦК лічыць абавязковым: а) перайсьці ўсяму Т-ву з 1 студзеня (января) 1927 году на беларускую мову; б) працу на вёсцы праводзіць праз таварышоў, акія добра ведаюць беларускую мову; в) у далейшым прымаць на працу ў першы чарод тых таварышоў, якія ведаюць беларускую мову і быт вёскі.

## У галіне фінансава-гаспадарчай.

1. У мэтах, з аднаго боку, павялічэньня сродкаў Т-ва і з другога—большай даступнасьці ўваходу ў яго незаможных груп насельніцтва, ЦК правёў нязначную зьмену сяброўскіх узносаў.

2. У тых-жа мэтах ЦК увёў асобныя кружкі для сталага збору ахвяр, галоўным чынам пры мэдычных установах. Гэты спосаб павялічэньня матар'яльнай базы Т-ва дапаўняецца проэктам ЦК організаваць у БССР сталую лётарэю і аўкцыён па прыкладу Дзеткамісіі „ВЦИК“ у Маскве. Неабходна па гэтых пытаньнях ведаць погляды мясцовых організацый.

3. За справаздачны пэрыод ЦК адмеціў цэлы шэраг нерэнтабельных прадпрыемстваў, якія організоўваліся акругамі. У зьвязку з гэтым ЦК пастанавіў не дапускаць новых прадпрыемстваў без папярэдняй згоды на то ЦК і адпаведных рэфэрэнцый з боку мясцовых гаспадарчых устаноў. У кожным разе, у аснову ўсіх гаспадарчых прадпрыемстваў Т-ва Чырв. Крыжу павінен класьціся прынцып коопэраваньня, згодна постулятаў, высоўваемых па дакладу М. Барсукова.

4. Згодна пастановам Конфэрэнцыі, ЦК аддаў загад аб спыненьні гандлю ў магазынах Чыр. Крыжу віном і півам. Па хадайніцтвах паасобных Камітэтаў некаторым з іх былі дадзены адсрочкі ў выкананьні гэтага загаду. ЦК лічыць, што далейшых адсрочак не павінна быць.

5. У мэтах павялічэньня матар'яльнай моцы Т-ва, ЦК узьняў пытаньне перад Выканкомам аб павялічэньні долі Бел. Т-ва ў консульскіх зборах і зьвярнуўся да „РОКК“ аб звароце Т-ву належных з яго сум. Гэтыя вымогі Пленум павінен падтрымаць.

6. ЦК за справаздачны пэрыод прыняў крокі да высьвятленьня нярухомай маемасьці сваей, як спадчыны ад старога Чырвонага Крыжу. ЦК спадзяецца, што Пленум падтрымае яго ў тэй барацьбе, якая каля гэтага пытаньня вядзецца.

7. За справаздачны пэрыод ЦК далей вёў судовы процэс супроць тых прэтэнзый, якія існуюць да Бел. Т-ва з боку Ленінградтабактрэсту і Мосторгу. У зьвязку з тым, што гэтыя справы могуць быць закончаны судом не на карысьць Т-ва і моцна падарваць яго грамадзкую дзейнасьць, ЦК робіць захады да ліквідацыі гэтых прэтэнзый па-за судовым шляхам.

## У галіне літаратурна-выдавецкай.

1. ЦК констатуе, што літаратурная камісія ня спраўдзіла тых заданьняў, якія па сутнасьці справы на яе ўскладаліся. Тое, што зроблена—толькі частка таго, што павінна было-б быць зроблена. ЦК лічыць патрэбным зьвярнуць на гэты бок

працы Т-ва асаблівую ўвагу і організаваць яго шляхам прыцягненьня больш энэргічных супрацоўнікаў ня толькі са складу Прэзыдыуму ЦК.

2. ЦК дагаварыўся з Цэнтр. Радыо-станцыяй аб шэрагу лекцый аб Чырв. Крыжы па радыо. Карысна выслухаць па гэтаму пытаньні погляды прадстаўнікоў з месц.

3. ЦК лічыць, што яго выдавецкая чыннасьць павінна быць аб'яднана з гэткай-жа чыннасьцю Наркамздрава. Пры гэтым яна павінна быць пабудавана на гаспадарчым разрахунку. Прынцыпы рэалізацыі выданьня павінны быць распрацаваны на сёнешнім Пленуме.

4. ЦК Приступіў да выданьня „Бюлетэню" і лічыць гэту справу выключна важнай. ЦК заклікае ўсе мясцовыя організацыі аказаць „Бюлетэню" найбольшую дапамогу, як падпіскай, так і надсылкай матар'ялаў аб працы. Пленум павінен выказацца аб тым, як ён разумее задачы „Бюлетэню" і яго зьмест.

## У галіне міжнароднай.

1. У галіне міжнароднай ЦК лічыць патрэбным перш за ўсё паставіць належным парадкам інформацыю аб Бел. Чыр. Крыжы заграніцай. Гэта задача зьвязваецца з агульнымі задачамі літ.-выдавецкага аддзелу ЦК.

2. ЦК вёў увесь час барацьбу за вызнаньне Бел. Т-ва, як асобнай міжнароднай організацыі, якая вялася таксама ўсімі іншымі Чырв. Крыжамі і Поўмесяцамі СССР. Да гэтага часу барацьба не дала дадатных вынікаў. Пленум павінен выказацца па гэтаму пытаньню.

3. ЦК організаваў сваё прадстаўніцтва разам з іншымі Чырв. Крыж. і Поўмесяцамі СССР у Жэнэве пры Міжнародным Камітэце і ў Парыжы (т. т. Багоцкі і Ракоўская). ЦК лічыць, што галоўнае іх заданьне па лініі дапамогі Бел. Чырв. Крыжу—гэта інформацыя аб яго дзейнасьці і дапамога па лініі Заходняй Беларусі.

4. ЦК лічыць, што Выканком Саюзу павінен далей набываць як мага больш аўторытэтнасьці і правоў. Усе ўваходзячыя ў яго склад нацыянальныя Чырвоныя Крыжы і Поўмесяцы павінны пры гэтым карыстацца роўнымі правамі і несьці аднолькавыя абавязкі.

5. Пытаньне аб устанаўленьні прадстаўніцтваў Бел. Чырв. Крыжу ў суседніх дзяржавах да гэтага часу дадатна ня вырашана. Аднак, патрэба ў гэтым—сама сабой зразумелая. ЦК лічыць патрэбным і надалей весьці ў гэтым напрамку акцыю і ставіць гэта пытаньне на абгавор Пленуму.

6. Найбольш важнай і найбольш рэальнай працай у галіне міжнароднай ЦК лічыць справу дапамогі насельніцтву Заходняй Беларусі. ЦК лічыць патрэбным павялічыць да мак-

сымуму лік асыгнаваньняў на карысьць дзяцей Зах. Беларусі і вызнае рацыянальнай дапамогу ў організацыі ў Вільні дзіцячай консультацыі і аптэкі. У гэтай справе карысна паразуменьне з Літоўскім Чырвоным Крыжам.

**А. Цьвікевіч.**

# Праца Акруговых Камітэтаў да 25 верасьня 1926 г.

*(З дакладу на II Пленуме ЦК Беларускага Т-ва Чырв. Крыжу).*

Пачатак справаздачнага пэрыоду—красавік месяц б. г. можна характарызаваць, як час ажыўленьня працы. За кароткі тэрмін у 4-5 мес. закладзена 23 райаддзяленьні, лік членаў Т-ва дасягнуў 6.000 чал. Упяршыню праведзены выбары акруговых камітэтаў Т-ва. Але калі ўзяць кожную акругу ў паасобку, дык відаць, што некаторыя з іх, якія займалі да конфэрэнцыі апошняе месца ў агульнай працы, высунуліся на першы плян, а некаторыя адышлі назад, страціўшы часткаю нават і тое, што мелі да конфэрэнцыі.

Характарызуецца справаздачны пэрыод яшчэ і шуканьнямі новых форм працы. За гэты час мэдычныя ўстановы, якія ўтрымоўваліся акругамі, перададзены органам аховы здароўя, прыняты меры аздараўленьня гаспадарчай дзейнасьці Т-ва і галоўная ўвага зьвернута на работу ў раёне і вёсцы.

Праца кожнай акругі ў паасобку выглядае так:

*Менская акруга.* Да Ўсебеларускай Конфэрэнцыі Менскі Акруговы Камітэт займаў першае месца ў працы Т-ва, маючы 3.150 членаў і райупаўнаважаных ва ўсіх раёнах. І цяпер акруга займае першае месца, маючы 4.500 членаў, У сямі раёнах абраны райкамітэты, а ў чатырох працуюць райупаўнаважаныя.

Менская акруга праводзіць вялікую грамадзкую працу. Організаваны перадвіжны зубаўрачэбны габінэт і перадвіжная санітарна-асьветная выстаўка, якія працуюць у вёсцы; улетку ўтрымоўваўся лягер для хворых піонэраў на 30 чал., даецца дапамога зволеным з спраўдому, уцекачом, дэмобілізаваным чырвонаармейцам і інш. Сродкі здабываюцца ад эксплёатацыі гаспадарчых прадпрыемстваў.

Да недахватаў працы Камітэту належыць аднесьці адсутнасьць практычнае працы членаў Т-ва і малае выяўленьне актыву.

*Аршанская акруга* займала да Конфэрэнцыі 2-е месца, маючы 1.052 члены Т-ва і райаддзяленьні ва ўсіх 10-ці раёнах. За мінулы пэрыод Аршанскі Камітэт дасягненьняў ня мае, а наадварот, страціў 50 % членаў Т-ва, уступіўшы сваё месца Мазыру і Магілеву. Цяпер у ім усяго 519 членаў.

Райкамітэты не абраны, у горадзе ячэйкі не організаваны, а ўпаўнаважаныя Т-ва на прадпрыемствах ня высоўваліся. Калі нават прыняць пад увагу заяву Старшыні Аршанскага Камітэту аб тым, што каля 300 анкет і членскія ўзносы былі зьвернуты назад у раёны для аформленьня (тады будзе ўсяго 819 членаў), дык і ў гэтым выпадку будзе страта 200 членаў Т-ва.

Прычынай гэтаму зьяўляецца тое, што Камітэт ніякае працы не праводзіў. Сходы членаў Т-ва ня склікаліся ні ў горадзе, ні ў раёне. Актыў Т-ва зусім ня ўчытваўся і не выяўляўся. Упаўнаважанымі, як у горадзе, так і ў раёнах, назначаліся ўрачы, выбараў ня было. Сродкі бяруцца Камітэтам ад экплёатацыі лазьні і іншых выпадковых паступленьняў, як напрыклад лётарэя, ахвяры і інш. Характэрна і тое, што лётарэя была распачата ў пачатку 1925 г., атрымана ад прадажы білетаў каля 1.000 руб., але да гэтага часу яшчэ не разыграна. Сродкі расходуюцца бяз усякага пляну і ўчоту, шляхам перадачы Здраўаддзелу на тую ці іншую патрэбу і Чырвоны Крыж ня ведае і ня цікавіцца далейшым лёсам перададзеных сродкаў. Камітэт выдаткаваў на „грамадзкую працу" за 1924-25 г. і за 1925-26 г. звыш 7000 р., але ніхто з насельніцтва і членаў Т-ва ня ведае аб гэтай працы Камітэту. Натуральна, што Чырвоны Крыж пры такіх абставінах ня мог мець папулярнасьці. Цікавыя выдаткі Камітэту за апошні час. Выдана 1.256 руб. на рамонт радзільнага прытулку і ясьляй у г. Воршы. Пастановы Камітэту аб гэтым няма і грошы ня выведзены ў расход. На пытаньне, чаму робяцца такія выдаткі, старшыня Камітэту адказаў, што грошы пакуль што выдаткаваны не афіцыяльна, ён пастараецца пакрыць гэту суму сродкамі Здраўаддзелу і толькі ў крайнім выпадку, калі ня будзе чым пакрыць, выведзе іх у расход па Чырвонаму Крыжу. Такі погляд на работу і сродкі Чырвонага Крыжу старшыні Акруговага Камітэту, як на бескантрольны датацыйны фонд Здраўаддзелу, памылковы.

Усё гэта, разам узятае, прычынілася да таго, што вельмі буйная і шпарка разьвіваўшаяся акруговая організацыя Т-ва пачала развальвацца, а калі гэткі мэтод грамадзкай і грашовай работы будзе існаваць і далей, дык стан акруговага аддзелу ніколі не палепшыцца.

*Полацкі Акруговы Камітэт* крыху пашырыў грамадзкую працу. Лік членаў падвоіўся, а лік райаддзяленьняў патроіўся (каля 400 членаў і 6 райаддзяленьняў), але далей гэтага праца Камітэту не пасунулася. Усю ўвагу Камітэт аддае фабрыцы гігроскопічнай ваты. На яе ідуць усе сродкі і энэргія Камітэту. Убытачнасьць фабрыкі прымусіла ЦК запрапанаваць зачыніць яе па магчымасьці без грашовых страт.

*Віцебскі Акруговы Камітэт* па выніках працы вельмі падобны да Аршанскага. Ён таксама страціў да 50 %

таго, што меў да Конфэрэнцыі. ЦК выдаткаваў вялікія сумы на ўтрыманьне Дома Санасьветы і Амбуляторыі ў Віцебску, спадзяючыся, што Акруговы Камітэт здолее каля іх замацавацца і разгарнуць працу, аднак ніякай працы Акруговым Камітэтам не праводзіцца. Дзякуючы бязьдзейнасьці Камітэту, ЦК быў прымушан паступова зьмяніць двух адказных працаўнікоў і старшыню Камітэту. Аднак, абраны на Акруговай Конфэрэнцыі новы Камітэт аказаўся таксама бязьдзейным. Адказны Сэкратар быў таксама зьняты з працы.

Трэба спадзявацца, што ў бліжэйшы час праца па Вітакрузе разгарнецца. Калі-ж надзеі ЦК і на гэты раз ня спраўдзяцца, дык ЦК прыдзецца прыняць выключныя меры, каб наладзіць работу. Па абшару Вітакруга зьяўляецца другою ў БССР і мае шмат магчымасьцяй для разьвіцьця працы, адсутнасьць якой нельга нічым апраўдаць.

*Барысаўская акруга* нарабіла шмат няпрыемнасьцяй і клапот ЦК. Характарызаваць дзейнасьць Барысаўскага аддзяленьня можна славамі быўшай упаўнаважанай т. Гофмэйстэр, у яе справаздачным дакладзе: „Аддзелу Чырвонага Крыжу ў нас фактычна ня было. Ніякае працы не праводзілася—была толькі амбуляторыя". Гэта было сказана пасьля таго, як у Барысаве ўтрымоўвалася амбуляторыя на сродкі Чырвонага Крыжу ў працягу 2-х год, піонэр-лягер і інш. Відавочна, што сродкі Чырвонага Крыжу выдаткаваліся, як і ў Воршы, ад імя і праз Здраўаддзел. Насельніцтва да ліквідацыі гэтых установ ня ведала, што яны ўтрымоўваліся Чырвоным Крыжам, ня ведала, якія задачы Т-ва, а ўпаўнаважаны, пэўна, ня лічыў за абавязак растлумачыць гэта. На гарадзкім сходзе быў абран Камітэт, але ён хутка разваліўся. ЦК быў прымушан умяшацца і назначыць новага старшыню, пасьля чаго праца пачала наладжвацца. Зараз у акрузе налічваецца да 500 член. Т-ва, амаль ва ўсіх раёнах створаны райаддзяленьні, організаваны ячэйкі Т-ва пры буйнейшых прадпрыемствах гораду, вышукваюцца сродкі на месцы. Гэта сьведчыць, што праца ў акрузе пачала разьвівацца.

*Слуцкая акруга* таксама, як і да Конфэрэнцыі, займае апошняе месца. Да Конфэрэнцыі ў акрузе было членаў Т-ва 60 чалавек, а ў касе 3 р. 75 к.; зараз членаў ёсьць 120, а ў касе—ніводнае капейкі.

*Калінінская акруга* мела да Конфэрэнцыі каля 300 членаў Т-ва.

*Бабруйская акруга* ад часу Конфэрэнцыі крыху ажывілася. Тады было 130 членаў Т-ва—больш нічога, а зараз каля 250 член. Т-ва, 3—4 райаддзяленьні, некалькі ячэек на прадпрыемствах. Праца разьвіваецца вельмі слаба і таму на гэту акругу ЦК прыдзецца зьвярнуць увагу.

*Магілеўская акруга* зьяўляецца супроцьлегласьцю ўсім іншым. Да Конфэрэнцыі ў акрузе ніякай працы ня было, ледзь было сабрана каля 50 членаў і абраны—Камітэт, а зараз Магілеўская акруга займае 2-е месца (пасьля Менску), налічвае каля 800—900 членаў, райаддзяленьні організаваны ва ўсіх раёнах, вышукваюцца сродкі на месцы. Магілеўскі Камітэт мяркуе адбудаваць завод газавых вод, які калісь эксплёатаваўся старым Чырвоным Крыжам. Гэта дасьць яму матар'яльную базу.

*Мазырская акруга,* як і Магілеўская, зрабіла за справаздачны пэрыод крок наперад у працы. У вакрузе да 800 членаў Т-ва, райаддзяленьні ва ўсіх раёнах, у 3-х з якіх абраны райкамітэты. У горадзе організавана 12 ячэек, а ў раёнах—4. Мазырскі Камітэт праводзіць вялікую практычную працу ў раёнах, уцягвае райкамітэты ў актыўную працу. Напрыклад, райкамітэт знаходзіць 50% кошту дзіцячае консультацыі і просіць ад акруговага камітэту толькі 50% на консультацыю ў раёне. Сродкі здабываюцца шляхам збору ахвяр, наладжваньня лётарэй і інш.

Такіх дасягненьняў ня мае яшчэ ніводная акруга і калі Мазырская акруга будзе з такім-жа посьпехам працаваць і далей, дык будзе мець шансы стаць паказальнай акругай у Беларускім Т-ве Чырвонага Крыжу.

Патрэбна падкрэсьліць, што грамадзкая праца Т-ва ва ўсіх акругах стаіць зараз перад вырашэньнем цяжкіх задач вышукваньня шляхоў далейшай працы. Першы этап у працы Т-ва—стварэньне грамадзкай базы (вярбоўка членаў, організацыя ячэек і райаддзяленьняў)—у большасьці выканан і Т-ва ўступае ў другі этап свайго разьвіцьця—этап актыўнай грамадзкай працы масы членаў.

Трэба ведаць, што Т-ва Чырвонага Крыжу зусім не падобна да іншых грамадзкіх організацый. Калі член МОПР'у, апрача ўнясеньня членскіх узносаў, удзелу на сходах і калі-ні-калі ўдзелу ў грашовых зборах, практычна нічога рабіць ня можа і ўступае ў МОПР у сілу самых задач гэтага Т-ва, дык член Т-ва Чырвонага Крыжу павінен мець перад сабою конкрэтную практычную працу. Гэта асабліва датыча вёскі. Толькі ў тым выпадку, калі вясковая ячэйка Чырвонага Крыжу будзе мець перад сабою конкрэтную працу ў сваёй вёсцы ці с/с—яна будзе карыстацца аўторытэтам і селянін панясе туды свой членскі ўзнос і будзе цікавіцца працай.

Уся грамадзкая праца павінна перанесьціся на раён. Раённы камітэт Т-ва павінен мець сваю матар'яльную базу і, прыцягваючы на ўзмацненьне сродкаў датацыі, як акруговага камітэту, так і другіх органаў, павінен праводзіць конкрэтную працу па дапамозе сялянству, адначасна выклікаючы праз с/с і вясковыя ячэйкі ініцыятыву самога сялянства.

Пры тых мэтодах працы, якія ўжываюцца зараз, калі акруговы камітэт Т-ва праводзіць працу ў раёне праз Здраўаддзел, дабіцца падтрыманьня сялянства немагчыма. У першым выпадку, ніхто ня будзе ведаць, што гэта робіцца дзякуючы падтрыманьню Чырвонага Крыжу, а ў другім—гэта будзе насіць характар абавязку, за які ня варта сказаць нават і дзякуй, ато будзе выглядаць, як ахвяра багатага дзядзі. Калі-ж праца будзе праводзіца раённым камітэтам і вясковай ячэйкай у сувязі з санкамісіямі, сельсаветам, камітэтам узаемадапамогі і інш. вясковымі організацыямі, пры самадзейнасьці сялянства—праца стане набываць зусім іншы характар—характар магутнага разьвіцьця Т-ва зьнізу.

Членам Т-ва ў горадзе таксама неабходна даць практычную працу, групуючы іх каля саветаў соцыяльнай дапамогі, вайскова-санітарнай падрыхтоўкі і інш., і накіроўваць іх на шлях вышукваньня сродкаў для правядзеньня практычнай працы (організацыя санітарных курсаў, барацьба з тубэркулёзам і інш).

Гэты пераход у 2-гі этап разьвіцьця практычнай працы масы членаў Т-ва зьяўляецца асабліва цяжкім, бо ён скасоўвае ўсе старыя навыкі працы, але разам з тым ён зьяўляецца неабходным. Дзеля гэтага патрэбна:

1. Па бюджэту Т-ва прадугледзіць сумы на разьвіцьцё працы ў раёнах, як на непасрэдную працу ў вёсцы (фонд санітарнай дапамогі вёсцы), так і на разьвіцьцё агульнай работы ў раёне і стварэньне матар'яльнай базы (рэзэрвовы фонд райаддзяленьня і фонд доўгатэрміновых пазычак Райкома), а для гораду—фонд соцыяльнай дапамогі.

2. Узмацніць абсьледавацельскую і інструкцыйную працу акруговых і раённых камітэтаў з боку ЦК.

3. Слабейшым акруговым камітэтам даць падрыхтаваных працаўнікоў.

4. Павялічыць дысцыпліну сярод супрацоўнікаў акруговых камітэтаў.

5. Пры разьвіцьці працы ўводзіць у штат акруговых камітэтаў платныя пасады старшыні ці сэкратара у раённых камітэтах.

Толькі пры напруджанай працы ўсіх органаў, Т-ва здолее шпарка і з посьпехам перайсьці да новых форм работы, а гэты пераход гарантуе далейшае разьвіцьцё і ўздым нашага Т-ва.

**Фрыдман.**

---

# Бюджет Белорусского О-ва Кр. Креста на 1926-27 год.

Белорусское О-во Красного Креста начало свою работу в сентябре 1921 года и в настоящий 1926/27 год вступило в шестой операционный год своей деятельности.

Бюджет 1926/27 года является вторым бюджетом О-ва, хотя более полным и реальным приходится считать настоящий бюджет первым за все существование О-ва.

Первая попытка суммирования Всебелорусского бюджета была в 1925/26 году, однако, если была возможность дать более-менее точный центральный бюджет, то в отношении местного, приходилось руководствоваться ориентировочными данными незначительной части смет округов, так как они охватывали работу только своего окружного аппарата, а часть округов совершенно не была представлена в общем Всебелорусском Бюджете. Таким образом, опыт работы предыдущих лет, а в особенности большой организационной работы 1925/26 г., дал возможность О-ву учесть проделанную работу и наметить план дальнейшей деятельности.

Вступая в настоящий бюджетный год, Бел. О-во Красного Креста об'единяет около 9.000 членов, имеет 9 предприятий, рассчитанных на извлечение доходов, собственный деревянный дом в местечке Братьковичи и содержит 4 лечебно-санит. учреждения.

На основании плана работы, доходная часть бюджета О-ва исчисляется из предположительных поступлений по Центральному Бюджету, основанных на опыте работы прошлых лет и местному—по сметам окружных комитетов, рассмотренных и утвержденных Бюджетной Комиссией.

В этом операционном году предположено перенести центр деятельности О-ва на самодеятельность масс, как среди рабочих и служащих, так и среди крестьянства. Этим предполагается вовлечь актив массы в работу О-ва и количество членов довести до 28.000 при 95 райотделениях, что даст доходной части бюджета 11.903 р. 50 к. или же 7,8% к сумме бюджета.

Развертывая общественную работу, предположено провести ряд платных постановок спектаклей, кино-сеансов, докладов научного значения, произвести кружечные сборы и

организовать проведение дня Красного Креста, что должно дать с другими разными поступлениями по центральному и местному бюджету—13.954 р. 05 коп. или 9,1% к сумме бюджета.

Госрегалии в бюджете О-ва по сие время занимают первое место. Если за 1925/26 г. по исправленной смете предположено было к поступлению 52.300 руб., т. е. 55%, то в настоящем бюджете регалии составляют 54, 2% и в абсолютных цифрах 80.844 руб.. Абсолютняя цифра регалий дает увеличение по сравнению с прошлым годом на 28.544 руб. или 54,4%. Такое увеличение допущено на основании опыта работы прошлого года, из поступлений которого видно, что каждое полугодие дает увеличение по театральным регалиям на 25—35% против прежних поступлений. Кроме этого, увеличение железно-дорожного тарифа и стоимости заграничных паспортов в настоящее время значительно увеличили поступления этого вида регалий, что и дает при проверке на 1926/27 год увеличение общей суммы, доводя ее до 80.844 руб.

Увеличение в суммарном отношении одновременно дает уменьшение в %% отношении к общей сумме сметы. Это говорит за то, что в нашем Обществе за текущий год предположено шире развернуть массовую общественную работу, что в свою очередь должно увеличить доходную часть бюджета.

И наконец, последней статьей доходной части бюджета включаются доходы от предприятий. Несмотря на увеличение количества предприятий до 12 единиц против 9-ти в текущем б/году, доходы от них предусмотрены с небольшим увеличением, т. е. вместо 26.930 руб. пр./г. должно поступить 28.583 руб. 39 коп. или 18,7%. Такое незначительное увеличение поступлений от этого вида доходов по сравнению с прошлогодним бюджетом об'ясняется осторожным подходом к исчислению чистой прибыли по данным работы прошлого года.

Таким образом, общая сумма дохода 1926/27 года выражается по центральному бюджету в 85.605 руб. или 58,3% и по местному 51.679 руб. 94 коп. или 31,5%. Всего 137.284 р. 94 к.—89,8%.

Кроме этих сумм предполагается поступление остатка доходов от прошлых лет. Так, по центральному бюджету ожидается поступление от Российского О-ва Кр. Креста по незаконченному расчету за жел.-дор. регалии 1922/24г.—8.250 руб. и от Украинского О-ва Кр. Креста—2.150 руб. и кроме того остаток неиспользованных средств исполнительной сметы в сумме 3.547 р. 26 к. по центр. бюджету и 1.686 р. по местному бюджету, что дает 15.633 р. 26 коп. или 10,2%.

Общая сумма доходной части бюджета на 1926/27 г. выражается по центр. бюджету—99.552 р. 26 к. или 65,1% и по местному—53.365 р. 94 к.—34,9%, что составит сумму в 152.918 руб. 20 коп. и сделает бюджет бездефицитным.

Расходная часть бюджета в основном разбивается на 6 главных видов расхода:

1) Расходы на медико-санитарную работу.

В прошлом операционном году на бюджете О-ва состояли: один подвижной венерологический диспансер, 1 подвижной зубоврачебный кабинет, 1 дом сан. просвещения, 1 столовая для туберкулезных больных, 1 антропометрический кабинет, 1 консультация, 3 амбулатории. Всего содержалось полностью на бюджете О-ва 9 единиц. Кроме того дотирован ряд медико-санитарных учреждений и полевые ясли.

Настоящий бюджетный год имеет существенное структурное изменение в этом параграфе. Все медико-санитарные учреждения постоянного типа, как амбулатории, консультации, дом санпросвета и полевые ясли проходят по бюджету Здравоохранения и Обществом Красного Креста предусмотрена только дотация по незначительному количеству медико-санитарных учреждений, учитывая тот момент, что без поддержки Кр. Креста данное учреждение вынуждено будет закрыться. Одновременно со снятием с бюджета Кр. Креста вышеперечисленных учреждений, предприняты меры к организации нового типа подвижных медико-санитарных учреждений. Так, например, в текущем б/г. предусмотрено организовать один подвижной зубоврачебный кабинет и два оспенных прививочных отряда, что с существующим уже зубоврачебным кабинетом и венотрядом составит пять подвижных медико-санитарных учреждений.

С переходом к подвижному типу медико-санитарных учреждений, имеется в виду внедрить красно-крестную работу в самые отдаленные углы республики, давая одновременно существеную фактическую помощь нуждающемуся населению. Для организации и содержания указанного типа учреждений, а также дотации медико-санитарным учреждениям, состоящим на бюджете Здравоохранения, предусмотрено по центр. бюджету 4.428 руб., по местному—10.356 руб. Всего 14.784 руб. или 9,7% к сумме бюджета.

Предусматривая широкую общественную работу, имеется в виду заинтересовать население санитарным строительством. Для этой цели ячейки Красного Креста на местах организационно связываются с сан. тройками и комитетами взаимопомощи, развивая инициативу населения к самодеятельности в строительстве бань, колодцев и санитарного просвещения (устройством сануголков). Расходы по строительству должны изыскиваться на местах, причем Красный Крест должен дотировать из своих средств только там, где инициатива

